# НАША СВАБОДА

№64(151) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

20 ЧЭРВЕНЯ 2001 года
СЕРАДА



Адрас:
220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com



КОШТ СВАБОДНЫ




## «Наезд» на рэдакцыю НАШАЙ СВАБОДЫ

У чора, калі гэты нумар рыхтаваўся да друку, рэдакцыю НАШАЙ СВАБОДЫ наведалі тры чалавекі, якія прадставіліся як супрацоўнікі камітэта фінансавых расследаванняў. Іхнімі дзеяннямі камандаваў чалавек, які прадставіўся як начальнік аддзела фінансавых расследаванняў Ганчароў Віталій Аляксандравіч. Свой дакумент ён паказаў толькі пасля таго, як вывучыў рэдакцыйнае пасведчанне супрацоўніка рэдакцыі, што папрасіў прадстаўніца.

У якасці абгрунтавання сваіх дзеянняў было прад'яўленае «Распараджэнне №004132» з штампам Фрунзенскага міжраённага аддзела дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў. Распараджэнне прадпісвала правесці праверку фінансава-гаспадарчай дзейнасці рэдакцыі газеты НАША СВАБОДА па «праверцы асобных пытанняў фінансава-гаспадарчай дзейнасці».

«Фінансавыя міліцыянты» прыступілі да правядзенняператрусу. В.Ганчароў асабіста заняўся вывучэннем змесціва сумак і іншых асабістых рэчаў супрацоўнікаў рэдакцыі. У фотакарэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ Уладзіміра Шлапака былі знойдзеныя налепкі з выявамі Аляксандра Лукашэнкі і Юрыя Захаранкі, якія былі сканфіскаваныя. Начальнік аддзела паабяцаў таксама У.Шлапаку, што давядзецца пазней «даць пісьмовыя тлумачэнні» — адкуль з'явіліся налепкі.

Потым В.Ганчароў прыступіў да вывучэння зместу шуфлядаў супрацоўнікаў рэдакцыі. Тут ягонымі трафеямі сталі арыгіналы карыкатураў, на якіх тым ці іншым шляхам быў прадстаўлены твар асобы, нечым падобнай да Аляксандра Лукашэнкі.

Залішне казаць, што ордэр на правядзенне ператрусу не быў прад'яўлены, а пратакол аб канфіскацыі не складаўся. Аднак супрацоўнікі рэдакцыі не перашкаджалі дзеянням «фінансавых міліцыянтаў», бо пад пагрозай апынуўся выпуск гэтага нумара газеты.



На працягу прыкладна 40 хвілінаў як журналісты, так і тэхнічны персанал не мелі магчымасці працягваць сваю работу, бо ім было загадана адысці ад камп'ютэраў.

У бухгалтэрыі наведнікі пыталіся пра наяўнасць зброі і наркотыкаў.

У момант, калі пішуцца гэтыя радкі, супрацоўнікі камітэта па фінансавых расследаваннях сканцэнтраваліся на тым, для чаго была, уласна кажучы, створаная іхняя служба, — праверцы фінансавай справаздачнасці. Магчыма, што нагодай для гэтага стаў прыезд журналістаў, у тым ліку з тэлебачання і радыё.

Нам прадстаўляецца вельмі цікавы той момант, што гэтыя «фінансавыя міліцыянты» займаліся далёка не толькі фінансавымі расследаваннямі, але і тым, што можа класіфікавацца як «палітычны сыск». Іхнія дзеянні яскрава сведчаць: напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў улада імкнецца стварыць інфармацыйную манаполію на праўдзівую інфармацыю пра кандыдата А.Лукашэнку, а таксама інфармацыйны вакуум вакол ягоных рэальных канкурэнтаў. Як звычайна. Гэтая праца даручаецца тым службам, якіх нібыта цяжка абвінаваціць у выкананні палітычнай замовы. Але ж мы маем больш здаровую логіку, а «доўгія вушы» заўсёды бачна здалёк.

Рэдакцыя

*P.S.* Калі газета здавалася ў друк, супрацоўнікі камітэта фінансавых расследаванняў пакінулі рэдакцыю. Ад іх засталася папера, з якой вынікала: парушэнняў вядзення фінансава-гаспадарчай дзейнасці не было знойдзена. Налепкі і карыкатуры нам не вярнулі.

## В Кремль едет ревизор

### *Нынешний визит Лукашенко в Москву, лишь на первый взгляд кажется неожиданным*

То, что 20-21 июня с рабочим визитом руководитель Беларуси снова посетит Москву, стало известно 18 июня, во второй половине дня. И сообщило об этом только государственное ТВ Беларуси. В Москве о таком событии сообщать не спешили. По словам белорусского посла Владимира Григорьева, в ходе этого визита будут подвергнуты ревизии все достигнутые раннее договоренности и подписанные документы между двумя странами. При этом посол упомянул справедливую, по его словам, критику в адрес российского правительства, с которой Лукашенко выступил в Гродно. Как известно, Кремль не воспринял ревизорский тон Лукашенко. Надо полагать, во время встречи с Касьяновым, которая должна состояться в ходе визита, произойдет очередной обмен мнениями. Суть претензий Лукашенко состояла в том, что российский премьер саботирует выполнение достигнутых двусторонних договоренностей. Упрекается в этом премьер и члены правительства не впервые. До сих пор за кадром остаются замечания, комментарии, а то и просто подколы в адрес Лукашенко, которые Касьянов делал на заседаниях Высшего госсовета российско-белорусского союза. В частности, он отмечал, что в выступлениях нынешнего председателя госсовета немало путаницы, противоречивости и логической непоследовательности. Очевидцы рассказывают, что обмен мнениями на таких заседаниях мало похож на отношения между союзниками.

Понятно, что при нынешней политической системе в России глава правительства самостоятельно никак не может заниматься саботажем. В Кремле сейчас хозяин вполне здоров. Так что недовольство Лукашенко было прямо адресовано Путину. Ну а освещение белорусской темы по российским телеканалам, говорят, и вовсе повергло в панику руководство Беларуси. Тому способствовало и появление на экранах представителей оппозиции и особенно беглых следователей прокуратуры, свидетельствовавших об убийствах исчезнувших политиков. По мнению многих наблюдателей, белорусским властям так и не удалось толком опровергнуть заявления следователей. Говорят, тема исчезнувших оппозиционных политиков далеко не исчерпана, и ожидаются новые признания причастных к этому людей. Стоит отметить, что все исчезнувшие имели тесные и разнообразные связи в России, а не на Западе.

Согласно распространенной официальной информации, в течение двух дней Лукашенко намерен провести московские встречи не только с Путиным и Касьяновым. И если встречи с главой «Итеры» Игорем Макаровым в общем-то стали традиционными при посещении Москвы, то с президентом Российского союза промышленников и предпринимателей Аркадием Вольским, пожалуй, станет первой. Известно, что этот союз при Путине стал той структурой, через которую хозяин Кремля стал общаться с олигархами. Известно и то, что все многообещающие инвестиционные и приватизационные проекты, о которых говорят Лукашенко и успевшие посетить его олигархи, оказались замороженными. Не секрет, что дополнительный налог на посевную, которым Лукашенко обложил и российские компании, вызвал сильно негативную реакцию. Во время своей последней встречи с олигархами Путин пообещал разобраться. Так уж совпало, что в тот же день, 31 мая, он оказался в Минске, где с озабоченностью восприняли переносы на более поздние сроки запланированных визитов некоторых российских олигархов. Якобы Кремль рекомендовал повременить с прямыми контактами с Лукашенко. Понятно, что это связано с предстоящими президентскими выборами. Так что Вольскому будет что сказать своему белорусскому земляку.

*Окончание на стр.3*

## Путин и МВФ

Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) из Москвы

Представитель фонда – желанный гость в Кремле. В отличие от некоторых.

За день до встречи с Александром Лукашенко российский президент Владимир Путин встретился в Москве с заместителем директора-распорядителя Международного валютного фонда Стенли Фишером, с которым он обсудил «финансовые отношения России со странами СНГ, и в частности с Беларусью», сообщает источник в Кремле.

Путин и Фишер говорили о мониторинге, который проводит МВФ, и о большом значении структурных реформ для российской экономики.

Накануне очередного приезда в Москву Александра Лукашенко президент Путин пригласил господина Фишера нанести неформальный визит в Москву. При этом «Путин подчеркнул, что Фишер – всегда желанный гость в России, – сообщает источник и добавляет: В отличие от некоторых».

В Кремле полагают, что подобные формулировки призваны компенсировать нанесенный руководству России моральный ущерб, проявившийся в несдержанных заявлениях белорусского лидера в Гродно в адрес российского премьер-министра Михаила Касьянова.

«Лукашенко давно известен миру как недруг и резкий критик МВФ. Любезно принимая Фишера прямо перед ним, мы показываем Минску то направление, куда идет Россия и куда давно следовало бы идти Беларуси», – отметил источник в Кремле, отметив, что Москва не собирается давать Лукашенко обещанный кредит до сентябрьских выборов.

## Загад зліквідаваць

Уся запазычанасць па выплаце заробку бюджэтнікам павінна быць зліквідаваная да 25 чэрвеня. Такое даручэнне даў Аляксандр Лукашэнка прэм'ер-міністру У.Ярмошыну. Ён таксама загадаў, каб у летні сезон не было перабояў у гандлі цукрам.

## Толькі тры дні працы

Брэсцкі завод «Колератрон» пераведзены на трохдзённы працоўны тыдзень. Прычыны — памяншэнне аб'ёмаў выпуску прадукцыі і запазычанасць гандлёвых арганізацыяў. Дагэтуль на 3-дзённы працоўны тыдзень перайшлі прадпрыемствы «Калібр», «Віцязь», Гомельскі радыёзавод і іншыя.

## Красці будзе цяжэй

На гомельскім заводзе «Электраапаратура» распрацавана новая мадэль электралічыльніка. Ён адрозніваецца ад тых, якія выкарыстоўваюцца зараз, шэрагам параметраў. Гэта дыстанцыйнае адключэнне (неплацельшчыкаў такім чынам будуць пазбаўляць святла) і адмысловая сістэма абароны супраць махлярства насельніцтва. Так што красці электраэнергію стане складаней.

## Крыж у Расіі?

Удзельнікі паседжання беларуска-расійскага штаба па вышуку крыжа Еўфрасінні Полацкай выказалі меркаванне, што гэтая зніклая рэліквія зараз знаходзіцца ў Расіі. З супрацоўнікаў КДБ Беларусі і ФСБ Расіі будзе створаная спецыяльная група па росшуку крыжа.

## Выстава марак

З 15 чэрвеня ў Нацыянальным мастацкім музеі працуе выстава «Знакі паштовай аплаты», прысвечаная 10-годдзю дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. На выставе прадстаўленая калекцыя Рэспубліканскага дзяржаўнага аб'яднання «Белпошта». Тут, напрыклад, можна пабачыць першую паштовую марку незалежнай Беларусі з выявай Крыжа Еўфрасінні Полацкай, выпушчаную 20 сакавіка 1992 года.

## Бровар стаў музеем

У вёсцы Яхімаўшчына Маладзечанскага раёна адчыніўся новы філіял літаратурнага музея Янкі Купалы. Ён размясціўся ў былым бровары, дзе паэт калісьці працаваў памочнікам вінакура. Сярод экспанатаў — абраз Маткі Боскай Чанстахоўскай, які належаў маці Янкі Купалы.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1400**

## Вязні канцлагераў у Бундэстагу

22 чэрвеня ў Берліне ў Бундэстагу адбудзецца ўрачысты прыём з нагоды 60-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Да гэтай трагічнай даты прымеркаваны візіт у Германію дэлегацыі былых вязняў фашысцкіх канцлагераў, гета і остарбайтэраў з Беларусі, Расіі і Украіны.

18 чэрвеня ў Хэмеры — мястэчку, дзе ў гады Другой сусветнай вайны месціўся адзін з найбуйнейшых лагераў для ваеннапалонных і інтэрніраваных, а зараз знаходзяцца могілкі, — прайшоў жалобны мітынг і малебен у памяць аб загінуўшых воінах, вязнях канцлагераў і гета. Па словах дырэктара дортмундскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра Петэра Юнге-Вентрупа, у Хэмеры пахаваныя больш за 20 тысяч ваеннапалонных, большасць з якіх савецкія воіны. «Мёртвыя заклікаюць да нашага сумлення, каб мы не дапусцілі паўтарэння падобнай страшнай вайны», — сказаў Юнге-Вентруп. Ён зазначыў, што такія акцыі, з аднаго боку, служаць напамінкам жывым аб жудасцях Другой сусветнай вайны, а з другога — садзейнічаюць далейшаму збліжэнню і прымірэнню народаў, якія бралі ўдзел у гэтай вайне.

Удзельнікі паездкі наведаюць таксама 8 нямецкіх гарадоў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія: Бон, Білефельд, Мюнстэр, Кёльн, Дзюсельдорф, Эсен, Дортмунд і Вуперталь, дзе сустрэнуцца з прадстаўнікамі мясцовых уладаў, грамадскіх арганізацыяў і нямецкай моладзі.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

КРЫМІНАЛ

## Крадуць будматэрыялы

У Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці днямі адбылося некалькі крадзяжоў будаўнічых матэрыялаў.

Невядомыя абрабавалі дачу дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па адной з мясцовых акругаў Барыса Бікініна. Паводле ягонай заявы ў раённы аддзел міліцыі ад 18 чэрвеня, з дачнага ўчастка ў вёсцы Люсінева Баранавіцкага раёна зніклі 16 ходнікавых плітаў коштам каля 200 тысяч рублёў. Па дадзеным факце ўзбуджана крымінальная справа, але падазроныя пакуль не знойдзены.

У міліцыю таксама звярнуўся дырэктар будаўнічай арганізацыі. Ён паведаміў, што нехта адарваў дошкі ад аконнай рамы корпуса школы-інтэрната, які будуецца ў гарадскім пасёлку Гарадзішча, і вынес адтуль ацяпляльныя батарэі коштам 140 тысячаў рублёў. У дадзеным выпадку ўстаноўлена, што крадзеж учынілі мясцовыя жыхары, браты 30 і 27 гадоў. Яны знаходзяцца ў вышуку.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Сход беларускіх «зялёных»

«Зялёная будучыня ў руках «зялёных» — так называлася трохдзённая нацыянальная сустрэча экалагічных няўрадавых арганізацыяў Беларусі, якая завяршылася 17 чэрвеня ў Мінску. Яе ўдзельнікі — прадстаўнікі 55 экалагічных няўрадавых арганізацыяў — абмеркавалі кола пытанняў, ахопленых Орхускай канвенцыяй аб доступе да інфармацыі, удзеле грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэнняў і доступе да правасуддзя па пытаннях, якія датычацца навакольнага асяроддзя.

Акрамя таго, былі разгледжаны праблемы ўстойлівага развіцця адносінаў паміж прыродай і цывілізацыяй. Асаблівая ўвага на сустрэчы надавалася ўдзелу Беларусі ў міжнародных працэсах па ўстойлівым развіцці, а таксама ролі ў іх Сусветнага банка.

Акрамя актывістаў экалагічнага руху, у дыскусіях узялі ўдзел першы намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Ігар Войтаў, кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі Сяргей Кулік, каардынатар па пытаннях энергетыкі Нацыянальнага экалагічнага цэнтра Украіны Аляксей Пасюк і каардынатар праекта *«Milieukontakt Oost-Europa»* у Амстэрдаме Сюзана Бэкер.

Выніковыя дакументы сустрэчы адлюстравалі імкненне экалагічных няўрадавых арганізацыяў Беларусі да супрацоўніцтва з дзяржаўнымі прыродаахоўнымі органамі, а таксама да ўзмацнення ўплыву экалагічных ведаў на працэс прыняцця рашэнняў аб прыродных рэсурсах.

**Леанід СІМАНАЎ**

ФОТАФАКТ



Фота IREX/ProMedia

Калі зямля пад «белымі крыламі», дык надзея жывая

## Паленне яшчэ гукнецца

Распараджэннем кіраўніка беларускага ўрада створана міжведамасная рабочая група па распрацоўцы і прыняцці рамачнай канвенцыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) для барацьбы супраць тытуню.

У склад групы, якую ўзначальвае намеснік міністра аховы здароўя, галоўны санітарны ўрач Беларусі Валерый Філонаў, увайшлі прадстаўнікі міністэрстваў аховы здароўя, прадпрымальніцтва і інвестыцыяў, фінансаў, спорту, унутраных справаў, юстыцыі і замежных справаў, а таксама Дзяржаўнага мытнага камітэта.

Сярод найбольш актуальных для Беларусі прапановаў у праект рамачнай канвенцыі СААЗ па барацьбе супраць тытуню намеснік кіраўніка рабочай групы, намеснік галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Беларусі Уладзімір Зянькевіч назваў праблемы падаткаабкладання тытунёвай прадукцыі і цэнаў на яе, пытанні рэкламы, ужывання і абарачэння тытунёвых вырабаў. Разам з тым, адзначыў ён, сітуацыя з ужываннем тытуню ў Беларусі прыкметна адрозніваецца ад сітуацыі ў дзяржавах Заходняй Еўропы. «У адрозненне ад Беларусі, дзе прыкметна расце цікавасць да курэння сярод падлеткаў і жанчын, заходнія краіны даўно прайшлі пік гэтага захаплення», — падкрэсліў Уладзімір Зянькевіч. Беларускае насельніцтва, лічыць ён, яшчэ ўсвядоміць небяспечныя наступствы гэтай шкоднай прывычкі.

**Марат ГАРАВЫ**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Льготы для БПСМ

Як паведаміла газета «Віцебскі кур'ер», гарадскі савет дэпутатаў прыняў рашэнне аб ускосным фінансаванні рэгіянальных структураў БПСМ. 12 чэрвеня яны вызвалілі абласны і гарадскі камітэты гэтай арганізацыі ад падатку на нерухомасць. Гэта пры тым, што мясцовы бюджэт выконваецца дрэнна. Праблемаў у горадзе хапае, ды і сам БПСМ зусім не бядуе.

Аргумент дэпутатаў быў такім: маўляў, грамадскія арганізацыі не павінны плаціць падаткаў, і што ў будучыні гэтак і будзе. Але зрабіць падатковую палёгку было вырашана выключна для БПСМ. Нагадаем, што на мінулым тыдні БПСМ заявіла аб усебаковай падтрымцы на прэзідэнцкіх выбарах Аляксандра Лукашэнкі. Адмысловая агітацыйная акцыя будзе праходзіць пад лозунгам «Я – за батьку!» Такім чынам, дзеянні дэпутатаў Віцебскага гарсавета становяцца зразумелымі.

**Алесь КАЗЛЮКЕВІЧ**

## Транзітны эксперымент

З чэрвеня 2001 года да канца траўня 2002 года ў Беларусі праводзіцца эксперымент па прымяненні спрошчанага парадку мытнага афармлення і кантролю тавараў, што перамяшчаюцца чыгуначным транспартам транзітам праз тэрыторыю рэспублікі.

Як паведамілі БелаПАН у Дзяржаўным мытным камітэце, цяпер мытнікі сумесна са спецыялістамі Беларускай чыгункі занятыя распрацоўкай палажэння аб спрошчаным парадку мытнага афармлення і кантролю транзітных тавараў.

Сутнасць згаданага эксперыменту, згодна з пастановай урада, у тым, што дагляд транзітных тавараў як форма мытнага кантролю праводзіцца ўпаўнаважанымі службовымі асобамі мытных органаў у выпадку наяўнасці інфармацыі аб магчымых парушэннях мытнага заканадаўства пры перамяшчэнні транзітных грузаў, пры парушэнні сродкаў мытнай ідэнтыфікацыі ці пры наяўнасці неадпаведнасцяў у таварасуправаджальных дакументах. Устаноўлена, што ў якасці дакумента кантролю дастаўкі транзітных тавараў выкарыстоўваюцца перавозачныя дакументы, устаноўленыя міжнароднымі дагаворамі ў галіне транспарту. Перамяшчэнне транзітных тавараў у Расійскую Федэрацыю і транзітам праз яе тэрыторыю ажыццяўляецца ў адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі, удзельнікамі якіх з'яўляюцца Беларусь і Расія.

**Аляксей АРЭШКА**

ГАНДАЛЬ

## Каранцін для індыйскіх тавараў

Пастановай Савета Міністраў зацверджана беларуска-індыйскае міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне каранціну і аховы раслінаў, падпісанае ў Дэлі 22 лютага 2001 года.

Як паведаміў БелаПАН начальнік Беларускай дзяржаўнай інспекцыі па каранціне раслінаў Мінсельгасхарчу Міхаіл Паходня, у пагадненне ўключаны пералікі каранцінных хваробаў, шкоднікаў раслінаў і пустазелля, якія ў выніку знешнегандлёвых аперацыяў могуць атрымаць распаўсюджанне на тэрыторыі Беларусі і Індыі. У прыватнасці, беларускі бок уключыў у гэты спіс 70 найменняў каранцінных хваробаў, шкоднікаў раслінаў і пустазелля, якія могуць быць завезены з Індыі. Для іх нераспаўсюджвання патрабуецца ажыццяўляць адпаведны памежны кантроль пры перамяшчэнні тавараў з адной краіны ў другую.

Апрача таго, пагадненне прадугледжвае пэўны від упакоўкі для імпартаваных і экспартаваных тавараў. Па словах Паходні, такая ўпакоўка не павінна з'яўляцца пераносчыкам хваробаў, шкоднікаў раслінаў і пустазелля. У пагадненні таксама агавораны патрабаванні да транспартных сродкаў, якія ажыццяўляюць экспартна-імпартныя і транзітныя аперацыі, а таксама палажэнне аб фітасанітарным сертыфікаце, які з'яўляецца абавязковым дакументам, што суправаджае экспартныя грузы расліннага паходжання.

Пагадненне заключана на пяць гадоў з магчымасцю далейшай пралангацыі.

**Марат ГАРАВЫ**

## *«Jazz forum»* у Мінску

26 чэрвеня ў Дзяржаўным музычным тэатры ў Мінску пройдзе міжнародная музычная акцыя, арганізаваная Польскім інстытутам у Мінску і Беларускай гільдыяй тэатральных рэжысёраў. У рамках акцыі адбудзецца канцэрт намінантаў штогадовага апытання папулярнасці, што праводзіцца часопісам *«Jazz forum»*, і дэманстрацыя відэазапісаў канцэртаў сусветных зорак джазу. Будуць распаўсюджвацца асобнікі часопіса і кампакт-дыскаў.

*«Jazz forum»*, міжнародны музычны часопіс, які асвятляе джазавыя падзеі ў Еўропе, існуе ўжо 35 гадоў. Спачатку ён выдаваўся ў Англіі невялікім фарматам. Сёння — гэта самы аўтарытэтны джазавы часопіс і найбольш маляўнічае выданне пра джаз у Польшчы. Узнагароды і прэміі, заснаваныя часопісам, з'яўляюцца высокай ацэнкай і прысуджаюцца за найбольш выдатную дзейнасць і бясспрэчныя заслугі ў галіне музычнай творчасці.

Першы канцэрт у рамках міжнароднай музычнай акцыі прайшоў у Мінску ў верасні 2000 года з удзелам квартэта Збігнева Намыслоўскага. У гэтым канцэрце возьмуць удзел польская спявачка Лора Шафран і трыо Анджэя Ягадзінскага. У праграме — джазавая апрацоўка твораў Шапена.

**Маша ПЯТРОВА**

УЛАДА

## Віцебская «вертыкаль» занялася выбарамі

Паводле звестак грамадзянскай ініцыятывы «Незалежнае назіранне», 18 чэрвеня адбылося паседжанне Віцебскага абласнога савета дэпутатаў і Віцебскага аблвыканкама па разглядзе і зацвярджэнні складу абласной камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі. Але прадстаўнікам палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў і журналістам у прысутнасці на згаданым мерапрыемстве адмовілі, нягледзячы на тое, што яны загадзя папрасілі аб гэтым.

Са словаў спецыяліста аддзела кадравай і арганізацыйнай работы Кастальцова, такое рашэнне прынята на падставе высновы аб тым, што наяўнасць назіральнікаў на гэтым этапе выбарчага працэсу не прадугледжана заканадаўствам. Аднак прадстаўнікі грамадскасці жадалі прысутнічаць на зацверджанні складу абласной камісіі як зацікаўленыя асобы, бо ў склад камісіі вылучаліся прадстаўнікі як партыяў, гэтак і грамадскіх арганізацыяў.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Новыя падаткі для замежнікаў

Замежныя юрыдычныя асобы, якія займаюцца ў Беларусі прадпрымальніцтвам, павінны будуць плаціць у бюджэт шэраг новых падаткаў. Ад 1 ліпеня яны мусяць рабіць адлічэнні ў Рэспубліканскі фонд падтрымкі сельгасвытворцаў, мясцовыя бюджэтныя фонды стабілізацыі эканомікі сельгасвытворцаў і ў дарожныя фонды. Апрача таго, замежнікі павінны будуць плаціць падатак у жытлова-інвестыцыйныя фонды. Цяпер беларускія і замежныя суб'екты гаспадарання будуць існаваць у роўных падатковых умовах.

**Язэп ВЕРБНІЧ**

СУД

## Бандажэўскаму далі 8 гадоў

Так званая «справа Бандажэўскага» завяршылася судовым выракам. Колішні рэктар Гомельскага медыцынскага інстытута, прафесар Юры Бандажэўскі асуджаны на 8 гадоў зняволення, пазбаўлены права займаць кіруючыя пасады тэрмінам на пяць гадоў. Былы прарэктар Уладзімір Раўкоў атрымаў такі ж тэрмін і пазбаўлены звання падпалкоўніка медыцынскай службы.

Апрача таго, з Ю.Бандажэўскага будзе ўтрымана ў даход дзяржавы каля 35 мільёнаў рублёў, з У.Раўкова – каля 20 мільёнаў рублёў.

Нагадаем, што Бандажэўскі быў абвінавачаны ў хабарніцтве. Але сам ён лічыў заведзеную супраць сябе справу як пераслед з боку ўладаў за ягоную пазіцыю па чарнобыльскіх праблемах.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Балельшчыкі пагражаюць байкотам

З катэгарычнымі патрабаваннямі да прэзідэнта футбольнага клуба «Дынама» (Брэст) Аляксея Авечкіна, які адначасова з'яўляецца намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкама, звярнуліся брэсцкія балельшчыкі.

«Мы са шкадаваннем і абурэннем назіраем за развалам клуба «Дынама» (Брэст)», — пішуць яны ў сваім лісце. У даволі рэзкай форме балельшчыкі прапаноўваюць Авечкіну навесці парадак у брэсцкім футболе — змяніць трэнера Уладзіміра Геваркяна і віцэ-прэзідэнта клуба Аляксандра Турава. Балельшчыкі лічаць, што кіраўніцтва клуба мае дачыненне да крымінальных структураў і адмывае «брудныя» грошы. «Яны як п'яўкі прысмакталіся да футбола Брэста. Нам, неабыякавым балельшчыкам, зусім незразумелая ваша добразычлівасць і лаяльнасць да гэтых... скампраметаваўшых сябе ў футболе людзей. Гэты зварот, паважаны прэзідэнт, лічыце ультыматумам. Калі яны застануцца, мы пачынаем байкот гульняў футбольнага клуба», — гаворыцца ў лісце, які падпісалі 344 чалавекі.

Трэба адзначыць, што ў сёлетнім сезоне брэсцкі клуб сапраўды гуляе кепска — усяго адна перамога. Пакуль невядома, як адрэагаваў на гэты ультыматум балельшчыкаў Аляксей Авечкін.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## У Крычаў — па хлеб

У Крычаў прыязджаюць па хлеб жыхары суседніх раёнаў. Гэта ў асноўным пенсіянеры, беспрацоўныя і іншыя катэгорыі маламаёмасных грамадзян.

Рэч у тым, што хлеб у Крычаве на 100-150 рублёў таннейшы, чым у Касцюковічах ці Клімавічах. Танныя хлебабулкавыя вырабы, якія прывозяць у гэтыя гарады з суседняй Расіі, у мясцовых жыхароў не карыстаюцца попытам. А мясцовыя хлебзаводы з'яўляюцца кааператыўнай уласнасцю, і таму сабекошты на муку маюць высокую кааператыўную нацэнку.

**BARC NEWS**

7 ліпеня 2000 года знік наш калега Дзмітры Завадскі. Хутка год, як ягоная сям'я пазбаўленая бацькі і мужа. Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае ўсіх неабыякавых людзей дапамагчы сям'і Дзмітрыя Завадскага і даслаць ахвяраванні на разліковы рахунак Святланы Міхайлаўны Завадскай. Калі ласка, абавязкова пазначайце прызначэнне плацяжу: **АХВЯРАВАННЕ СЯМ'І, СЫНУ ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА.**

Рэквізіты банка-атрымальніка:
Рахунак для ахвяраванняў у валюце:
PRIORBANK
Minsk V.Horuzhey str.31-A
SWIFT Code: PJCB BY 2X
3134125305029
Атрымальнік: **Sviatlana Zavadskaya**

Рахунак для ахвяраванняў у беларускіх рублях:
Р/р 3134125300011,
**«Пріорбанк» ОАО, код 749**
Атрымальнік: **Святлана Міхайлаўна Завадская.**

